# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 48 (258) 3 — 9 снежня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

*РЭХА ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА*
*стар. 4—5*

*БЕЛАРУСКІЯ САЛАЎІ*
*стар. 6*

*“АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ” МУЗЫКА?*
*стар. 8*

# ЗОРНАЙ ВАМ БУДУЧЫНІ, ЛАЎРЭАТЫ!

***У кабінеце Міністра культуры адбылася сустрэча з лаўрэатамі міжнародных конкурсаў. У цёплай атмасферы сярод дзвюх мастацкіх карцін з краявідамі, беларускай сымболікі, паліц з кнігамі і ліманаду прайшла сяброўская гутарка, тэму якой можна прыблізна вызначыць: “Так трымайце, лаўрэаты! Мы заўсёды вам паспрыяем!”***

“Мастацтва не любіць скразнякоў, не любіць зняважлівых да сябе адносінаў. Кожнага з вас Бог пацалаваў у лоб. Лёс дае вам магчымасць рабіць людзей лепшымі — дабрэйшымі, чысцейшымі, — адзначыў міністр Аляксандр Сасноўскі. — Мне хацелася б, каб нашу краіну пазнавалі па вас”.

Прафесары Беларускай акадэміі музыкі Ігар Алоўнікаў і Анатоль Генералаў распавялі пра дасягненні навучэнцаў, пра свае праблемы. А міністр культуры, у сваю чаргу, запэўніў прысутных, што ў будучыні пройдзе міжнародны конкурс “Фартэпіяна. Мінск-99”. Асаблівую ўвагу і павагу на сустрэчы дарылі дзвюм маладым і прыгожым дзяўчатам — навучэнкам беларускага харэаграфічнага вучылішча. Яны — Ірына Цымбал і Аста Базевічутэ — прывезлі з конкурсу балета “Варна-96” у Балгарыі бронзавыя медалі. Такімі вынікамі было адзначана іх майстэрства сярод прэтэндэнтаў з 34 краін свету!

Таксама на сустрэчы віталі Андрэя Паначэўнага — лаўрэата І прэміі Міжнароднага конкурсу ў Кёльне (фартэпіяна), Іосіфа Сяргея — лаўрэата ІІ прэміі Міжнароднага конкурсу “Фартэпіяна. Мінск-96”, Дзмітрыя Атраднага — лаўрэата ІІ прэміі конкурсу ў Кастльфідарда, Алега Кавалеўскага — лаўрэата ІІІ прэміі конкурсу вакалістаў імя Дворжака (Карлавы Вары), Сяргея Мікуліка — лаўрэата міжнароднага конкурсу піяністаў (Порта, Партугалія).

**Зміцер ВОЛКАЎ**



**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# ЦІ ПАТРЭБЕН СЁННЯ ДЫЗАЙНЕРАМ ТВОРЧЫ САЮЗ?

## (Абмяркоўваючы Закон РБ "Аб творчых саюзах")

***22 кастрычніка Вярхоўным Саветам РБ зацверджаны ў першым чытанні законапраект "Аб творчых саюзах". У гэтым законапраекце канстатуецца прынцыповая адметнасць дзейнасці творчых саюзаў ад дзейнасці іншых грамадскіх аб'яднанняў у рэалізацыі агульнанацыянальных інтарэсаў і дзяржаўнай культурнай палітыкі, а таксама неабходнасць іх падтрымкі з боку дзяржавы ў новых сацыяльна-эканамічных умовах. Закон вызначыў функцыянальныя напрамкі дзейнасці творчых саюзаў, асновы яе прававога, эканамічнага і арганізацыйнага рэгулявання, а таксама парадак узаемадзеяння, узаемныя правы і абавязкі такіх трох складаючых працэсу культурнага развіцця, як творчая асоба, творчы саюз і дзяржава.***

Трэба сказаць, што ў апошні час у асяроддзі дзеячаў мастацтва было шмат спрэчак наконт таго, ці патрэбны наогул у новых сацыяльна-эканамічных умовах такія "народжаныя таталітарным савецкім рэжымам" формы аб'яднання работнікаў культуры, як прафесійныя творчыя саюзы. Выказвалася думка, што творчыя саюзы ўжо аджылі і з'яўляюцца ў наш час нейкім анахранізмам, перажыткам мінулага. Сапраўды, інстытут творчых саюзаў, які з'явіўся ў нашай краіне ў 30-я гады, быў задуманы сталінскім кіраўніцтвам не столькі для падтрымкі дзейнасці творчых асоб, колькі для кантролю і падпарадкавання гэтай дзейнасці інтарэсам дзяржавы і пануючай ідэалогіі. Таму, калі таталітарная савецкая сістэма разбурылася, быццам бы слушнымі здаваліся галасы, што з яе знікненнем павінны знікнуць і народжаныя ёю творчыя прафесійныя саюзы, бо патрэбы ідэалагічнага кантролю за творчымі работнікамі ўжо не было. Аднак праціўнікі такіх радыкальных меркаванняў у адносінах да творчых саюзаў таксама слушна заяўлялі, што за дзесяцігоддзі існавання ў нас творчых саюзаў яны набылі і шмат карысных для творцаў функцый. Гэта і забеспячэнне творчых сувязяў паміж дзеячамі культуры, і пэўная творчая і матэрыяльная падтрымка членаў саюза, і дапамога ў арганізацыі сацыяльнай сферы жыцця творцаў. І многае іншае.

У рэшце рэшт барацьба паміж названымі дзвюма пунктамі гледжання на творчыя саюзы скончылася тым, што палеміка як бы сама сабой заціхла, а творчыя саюзы з прычыны, як цяпер стала ясна, аб'ектыўнай патрэбы ў іх засталіся. Ну, а калі творчыя саюзы захаваліся, то безумоўна, трэба было неяк у заканадаўчым плане зацвердзіць іх ролю ў новых палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах у краіне. Гэтую мэту і паставіў перад сабой законапраект, які разглядаўся ў беларускім парламенце. Што ж дае новы закон аб творчых саюзах самім саюзам? Паспрабуем разгледзець гэтае пытанне на прыкладзе Саюза дызайнераў Беларусі.

Неабходна адзначыць, што Саюз дызайнераў, у параўнанні з саюзамі іншых творчых прафесій, быў створаны дастаткова позна — меней за дзесяць гадоў таму, што было звязана з вельмі нялёгкім і складаным шляхам развіцця нашага дызайну. Творчасць першых савецкіх дызайнераў, якія ў 20-я гады дасягнулі значных поспехаў, былі насільна перарваны таталітарнымі сталінскімі ўладамі. Лёс піянераў нашага дызайну аказаўся драматычным, а ў некаторых выпадках нават трагічным, многія з іх былі рэпрэсаваныя — сталі вязнямі ГУЛАГа ці былі расстраляныя, іншым было забаронена займацца прафесійнай дзейнасцю.

Пасля гэтага доўгі час дызайн у нашай краіне быў у заняпадзе. Новы ж яго ўзлёт абазначыўся ў 60-я гады, калі на хвалі "касыгінскай" эканамічнай рэформы ўладамі было вырашана "зверху" ўкараніць дызайн у вытворчасць. У гэты час савецкае кіраўніцтва ўсклала вялікія надзеі на дызайн, у ім убачылі панацэю ад усіх бедаў, якія цярпела тады наша вытворчасць тавараў народнага спажывання. Акрылены дзяржаўнай падтрымкай, наш дызайн тады і сапраўды "ўзняўся над зямлёю", накіроўваючыся ў далёкі палёт. Але савецкіх дызайнераў ізноў чакала расчараванне. Выдатныя праекты не ішлі ў вытворчасць, залежваліся, як кажуць, "на паліцы". На шляху дызайнераў паўстала кансерватыўнасць, непаваротлівасць савецкай эканомікі, коснасць і пасіўнасць кіраўнікоў прамысловасці і дзяржаўных чыноўнікаў.

Але ў 80-я гады з абвяшчэннем "перабудовы" ў дызайнераў з'явіліся новыя надзеі. Менавіта тады (у 1987 годзе) быў створаны Саюз дызайнераў Беларусі. Ён стаў клапаціцца аб забеспячэнні спрыяльных умоў для работы сваіх членаў. Пры саюзе арганізоўваюцца творчыя дызайн-студыі, якія далі магчымасць дызайнерам заключаць наўпрост дамовы з прамысловымі прадпрыемствамі, што павінна было пашырыць сферу дзейнасці дызайну ў прамысловасці і тым самым падвысіць якасць вырабаў шырокага ўжытку. Так, увогуле, справа і пайшла спачатку. Але неўзабаве пачаліся розныя адмоўныя дэфармацыі ў нашай эканоміцы, якія згубна адбіліся на дзейнасці айчыннага дызайну. Нашым прамысловым прадпрыемствам, якія прастойваюць з-за немагчымасці збыць прадукцыю, што, у сваю чаргу, абумоўлена неплацежаздольнасцю насельніцтва, не патрэбны новыя ўзоры вырабаў, не патрэбна, значыць, і праца дызайнераў. Дызайнерская дзейнасць сёння, такім чынам, аказалася пад пагрозай знішчэння. Што можа цяпер дапамагчы дызайнерам выжыць, захаваць сваю прафесію ад згубы? Ці адыграе тут сваю ролю Саюз дызайнераў? І ці дае што-небудзь для вырашэння названых праблем новы закон аб творчых саюзах?

Безумоўна, кардынальна выправіць становішча дызайну ў нашай краіне зможа толькі аздараўленне эканомікі, уздым прамысловасці, развіццё свабоднага рынку тавараў. Але і ў сённяшняй абстаноўцы эканамічнага заняпаду можна нешта зрабіць у справе захавання дызайнерскай прафесіі, падтрымкі дзейнасці айчынных дызайнераў. І безумоўна ж тут дызайнерам у адзіночку не перамагчы. Патрэбна аб'яднанне сіл прафесіяналаў гэтай галіны, а такое аб'яднанне зараз рэальнае толькі на падставе ўжо існуючага творчага саюза. Але і творчы саюз адзін не здольны змагацца з акалічнасцямі сённяшняга жыцця без дапамогі дзяржавы.

У гэтым плане вялікую ролю якраз павінен адыграць новы закон аб творчых саюзах. Менавіта ён прызначаны зацвердзіць гарантыі дзяржаўнай падтрымкі дзеячаў нашай культуры, праз дапамогу творчым саюзам даць магчымасць стварэння спрыяльных умоў для ажыццяўлення мастакамі іх творчай дзейнасці. Таму не выпадкова, што ў артыкуле 2 закону сярод важнейшых задач заканадаўства РБ аб творчых саюзах называюцца:

— вызначэнне прававых механізмаў і гарантый дзяржаўнай падтрымкі творчых саюзаў, іх функцыянавання і развіцця;

— стварэнне спрыяльных прававых, сацыяльна-эканамічных і арганізацыйных умоў для забеспячэння дзейнасці творчых саюзаў.

У гэтай вось гарантыі дзяржаўнай падтрымкі творчых саюзаў як прафесійных аб'яднанняў людзей, якія ствараюць культуру нашай краіны, асноўная станоўчая якасць новага закону. І гэтая падтрымка творчых саюзаў з боку дзяржавы не проста дэкларуецца, яна пацвярджаецца больш канкрэтнымі захадамі, якія можна знайсці ў далейшым тэксце закону.

У першую чаргу адзначым, што ў артыкуле 10 закону зацвярджаецца вельмі важны для жыццядзейнасці творчых саюзаў пункт — ажыццяўленне ў адносінах да іх палітыкі льготнага падаткаабкладання і льготнага рэжыму выкарыстання валютных сродкаў. Гэткім чынам, творчыя саюзы, якія дзяржавай да гэтага часу ў палітыцы падаткаабкладання прыроўніваліся да камерцыйных прадпрыемстваў, зараз у заканадаўчым парадку будуць разглядацца як структуры, адметныя ад гэтага роду прадпрыемстваў, бо маюць іншыя мэты і іншую спецыфіку работы. Названы пункт закону вельмі дапамога дзейнасці творчых саюзаў, у тым ліку, зразумела, і Саюзу дызайнераў, дазволіўшы творчым студыям апошняга больш эфектыўна прыцягваць да супрацоўніцтва заказчыкаў дызайн-распрацовак, бо ў гэтым выпадку са зніжэннем накладных выдаткаў зніжалася б і цана на дызайн-распрацоўку, што вельмі важна для заказчыка сёння ва ўмовах збяднення нашых прамысловых прадпрыемстваў. Зніжэнне падаткаабкладання дазволіла б таксама больш сродкаў выдзяляць на развіццё, тэхнічнае ўзбраенне творчых дызайн-студый.

Далей, у артыкуле 20 закону абвяшчаецца фінансавая падтрымка творчых саюзаў і іх прадпрыемстваў з боку дзяржавы. Гэта, безумоўна, важны пункт, таму што, не будучы камерцыйнымі прадпрыемствамі, творчыя саюзы, зразумела ж, у сённяшніх умовах без дзяржаўнай фінансавай падтрымкі выжыць не змогуць. У гэтым плане немалаважным для фінансавага выжывання творчых саюзаў з'яўляецца і гарантуемая ім артыкулам 21 закону бясплатнае карыстанне памяшканнямі на ўвесь перыяд іх дзейнасці. Гэта дазволіць, напрыклад, Саюзу дызайнераў, які зараз увесь час вымушаны змагацца з рознымі фінансавымі праблемамі, вырашыць іх значную частку і больш увагі аддаць творчым пытанням і праблемам арганізацыі дзейнасці членаў саюза.

Важным у законе ўяўляецца і тое, што ён удакладняе правы творчых саюзаў ствараць розныя прадпрыемствы і арганізацыі. У гэтым плане ў законе ў артыкуле 16 падкрэсліваецца, што творчыя саюзы "маюць права ажыццяўляць вытворчую і гаспадарчую дзейнасць і могуць ствараць прадпрыемствы і арганізацыі, якія валодаюць правам юрыдычнай асобы, з мэтай выканання статутных задач творчых саюзаў". У дачыненні, напрыклад, да Саюза дызайнераў гэта ўдакладняе становішча і статус творчых дызайн-студый саюза і іншых ствараемых пры ім творча-вытворчых прадпрыемстваў. Ажыццяўленне пэўнай вытворчай і гаспадарчай дзейнасці дасць дадатковую фінансавую падтрымку гэтым прадпрыемствам і дазволіць больш энергіі аддаваць творчым прафесійным праблемам. Немалаважным у законе з'яўляецца таксама зацвярджанае ў артыкуле 23 вызваленне ад абкладання мытнымі пошлінамі часова вывозімых з мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь творчымі саюзамі і іх членамі вынікаў творчасці і тэхнічнага абсталявання. Гэта, напрыклад, дасць Саюзу дызайнераў магчымасць беспярэшкодна вывозіць творы сваіх членаў для дэманстрацыі на выставах за межамі краіны, што пашырыць сферу дзейнасці нашага дызайну, прыцягваючы да яго ўвагу замежных вытворцаў. Дарэчы, новы закон забяспечвае права дзеячам культуры ствараць на тэрыторыі Беларусі і міжнародныя творчыя саюзы, што зацвярджаецца артыкулам 8. "Міжнародным, — гаворыцца ў законе, — прызнаецца творчы саюз, дзейнасць якога распаўсюджваецца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь... і тэрыторыю адной альбо некалькіх замежных дзяржаў і які мае там арганізацыйныя структуры". Тут нельга не адзначыць, што дызайнеры ў гэтым плане апярэдзілі творцаў іншых прафесій і, нягледзячы на сённяшнія неспрыяльныя ўмовы для развіцця дызайну, зрабілі пэўныя крокі да інтэграцыі дзейнасці дызайнераў розных краін, стварыўшы на тэрыторыі Беларусі сваё міжнароднае аб'яднанне. Гаворка ідзе аб Беларускім аддзяленні Міжнароднай асацыяцыі "Саюз дызайнераў", мэтай якога з'яўляецца наладжванне кантактаў з дызайнерамі іншых краін СНД, забеспячэнне выхаду дзейнасці беларускіх дызайнераў за межы нашай рэспублікі і такім чынам стварэнне больш спрыяльных умоў для функцыянавання айчыннага дызайну.

Гаворачы ў цэлым пра новы закон аб творчых саюзах, паўторым, што яго з'яўленне — станоўчы факт у культурным жыцці нашай рэспублікі. Як бачым, закон не толькі канстатаваў адметнасць дзейнасці творчых саюзаў ад дзейнасці іншых грамадскіх аб'яднанняў, вызначыў неабходнасць іх падтрымкі з боку дзяржавы, але і пазначыў рэальныя шляхі гэтай падтрымкі. Шэраг артыкулаў закону зацвярджае канкрэтныя захады, якімі дзяржава павінна падтрымаць айчынных творцаў у сённяшніх складаных сацыяльна-эканамічных умовах. На прыкладзе Саюза дызайнераў мы ўбачылі, што рэальна атрымлівае творчы саюз ад новага закону. Апошні паспрыяе дзейнасці беларускіх дызайнераў, дасць ім магчымасць аблегчыць свой лёс у абстаноўцы катастрафічнага заняпаду сёння ў нас дызайнерскай прафесіі. Безумоўна ж, і іншыя творчыя саюзы з дапамогай новага закону атрымаюць магчымасць палепшыць сваё фінансава-эканамічнае становішча з мэтай падтрымкі творчай дзейнасці сваіх членаў. Але трэба ўсё ж разумець, што новы закон — гэта, хоць і важная, але пакуль толькі заяўка на дапамогу айчынным творцам з боку дзяржавы. Як жа гэты закон будзе дзейнічаць у жыцці, ці будзе ён у наш час усеагульнага непадпарадкавання законам дасканала выконвацца, пакажа будучыня. Аднак і творцам не трэба сядзець і чакаць ля мора пагоды, а неабходна актыўна дамагацца, каб новы закон увайшоў у жыццё нашай айчыннай культуры.

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства, член Савета Саюза дызайнераў Беларусі, член Праўлення Беларускага аддзялення Міжнароднай асацыяцыі "Саюз дызайнераў".**

АНКЕТА

# ДЗЕ Ж АЛМАЗНЫ МОЙ ВЯНЕЦ?

***Тэатральны сезон — паняцце ўмоўнае і фармальнае. А можа нікому не патрэбна сёння абмяркоўваць вынікі сезона? Але ж такая ўмоўнасць — дзяленне на сезоны — у тэатральным свеце жыве даўно, і мы мусім з ёй лічыцца. Асабліва штотыднёвіку "Культура", які амаль адзіны з усіх рэспубліканскіх СМІ змяшчае шмат матэрыялаў пра тэатральныя справы на Беларусі, дый не толькі Беларусі.***

Вам не падалося, што ў прынцыпе тэатральнае жыццё сталіцы ўжо даўно не дае адчування свята, доўгачаканасці новых пастановак, не спараджае звычайных тэатральных пагалосак з прыватнага жыцця зорак і жыццёвых анекдотаў, якія абавязкова ўзнікаюць падчас рэпетыцый? Скажаце: жорсткі час, іншыя норавы і крытэрыі ў грамадстве? Але ж паўныя сталічныя сцэны працуюць не адзін сезон пры чыстым аншлагу, без калектыўных паходаў Суворазскага вучылішча і сваякоў служыцеляў Мельпамены. Дапусціць думку: публіка не зразумела ідэю таленавітага рэжысёра ў абранай ім жа даўно вядомай (ці не) п'есе? Прабачце, але ж, як вядома, публіка заўсёды мае рацыю. Публіка любіць зорак, ідзе на зорку. Дарэчы, некаторыя сталічныя тэатры і спекулююць на імёнах, што аднойчы сталі папулярныя, і публіка прыходзіць раз-пораз з надзеяй на цуд і загадзя загатаваным "уседараваннем" у тэатральныя залы. А ў залах даўно не панаваў цуд: на сцэне тусуюцца з сезона ў сезон, як карты ў калодзе, адны і тыя прозвішчы, якія, далібог, у хуткім часе набудуць статус класікаў. За стабільнасць. Так, тэатр павінен мець сваю гісторыю і свае традыцыі. Насцярожвае толькі, што не нараджаюцца новыя імёны...

У Мінску болей за 15 прафесійных і аматарскіх сцэн. У сезон, калі паводле логікі, выпускаецца каля 15-ці прэм'ер. Пытанне: дзе яны іграюцца, калі ставяцца ўвогуле? Зразумела, эканамічны крызіс, неталенавітая змена... Толькі, відаць, не ў традыцыі тэатра саступаць дарогу маладым. Былому выпускніку будзе "залішне" атрымаць сцэну Нацыянальнага тэатра ці ўсё тую ж эксперыментальную "маладзёжкі". Рызыкоўна! Рызыка патрабуе грошай, якіх заўсёды няма. А калі яны з'яўляюцца, то штатныя мэтры чакаюць чаргі, каб казку зрабіць быллю. Рызыкоўна ўдвая, бо, барані Божа, штатную карону адбяруць як вымпел "Ударнік камуністычнай працы" і перададуць "племени младому, незнакомому". Дзеля гэтага існуюць і пісаныя і няпісаныя законы. Менавіта законы дыктуюць маладому творцу ўмовы, пры якіх ён становіцца спачатку "тварью дрожащей", а толькі потым, калі вытрымлівае тэрмін гульні "Пажывi з нашае", мае правы на рэалізацыю ўжо далёка не мастацкага праекта.

Заўважылі, што ў сталіцы радзей нараджаюцца зоркі айчыннай драматургіі, рэжысуры дый акцёрскага цэха? Годных імён пасапраўднаму мала — яшчэ пару сезонаў, і яны пачнуць паўтарацца. Сітуацыя мае тэндэнцыю стаць стабільнай для тэатраў на Беларусі. Стабільная праца — з'ява добрая, толькі не ў Мастацтве. Стабільнасць нараджае нецікаўнасць і абыякавасць, адным словам, звычайнасць. Да прыкладу, самай урачыстай падзеяй для служыцеляў тэатра застаюцца падзеі з нагоды юбілею тэатра. Гэта: увага СМІ і ўрада, канферэнцыі і "круглыя сталы", хуткапечаная прэм'ера і спектакль-піянер юбілейнай сцэны. Сумна, спадары! Сумна нават ад правінцыяльнай ідыліі, якая пануе на тэатральных рэспубліканскіх фэстах. Там таксама стабільна ідзе "раздача сланоў" абласным тэатрам ад сталічных карыфеяў і выпадковых спонсараў. Крытыкаў варта паслухаць, але ж асноўнае дзеянне "всем сёстрам по серьгам" у коле тэатрыкаў, відаць, не хутка скончыцца.

Між іншым, дэмакратычнае разгільдзяйства, якое замяніла татальная строгасць, дае правы спакойнага існавання ўсеўплываваму ў мінулым Саюзу тэатральных дзеячаў. Абы ціха было ў тэатральным каралеўстве! Можна проста рабіць добрую міну пры дрэннай гульні, ці проста абстрагiравацца.

Што ж тычыцца Міністэрства культуры, дык яно, як і заўсёды, — у восьмым радзе.

Каторы год голы кароль вандруе па Мінску тэатральным. Прычым ён жа і кароль, і кравец, і швец... Сам прымярае, прыкідвае на фігуры... новы твор. Тэатрператвараецца ў прымерачную, дзе патаемнае ў бліжэйшага — падкладка, а што наверсе — маска. Вось наш штотыднёвік і вырашыў звярнуцца да практыкаў тэатра з аднолькавымі пытаннямі:

Якія спектаклі ці праца акцёра, на Вашу думку, сталі адкрыццём у мінулым сезоне?

Над чым працуеце Вы і з якімі аўтарамі ў новым тэатральным сезоне?

Адказы мэтраў беларускай сцэны перад Вамі.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**





***Валерый РАЕЎСКІ, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы, народны артыст Беларусі:***

Без падманлівай сціпласці назаву свой спектакль *"Ромул Вялікі"*. Магчыма, меркаванні мае занадта асабістыя. Тэатральны крытык Таццяна Арлова напісала ў рэцэнзіі: "Здаецца, на гэты раз ён (Раеўскі. — **Аўт.**) не прэтэндуе на чарговую прэмію, яўна не жадаючы нікому дагаджаць..."

Я згодны з яе трактоўкай, бо сапраўды, у гэтай пастаноўцы я не хачу нічога тлумачыць і даказаць. Хай спектакль пакідае гледача ў роздумах. Тым больш, п'еса Дзюрэнмата "Ромул Вялікі" антыталітарная, якую яшчэ 7 — 9 гадоў таму немагчыма было б паставіць. Я лічу, што цяперашняя сітуацыя на Беларусі зрабіла п'есу актуальнай.

Увогуле я шчаслівы ад сустрэчы на сцэне з п'есамі такіх аўтараў: Брэхт, Дзюрэнмат... Лічу іх літаратурна-інтэлектуальным акумулятарам XX стагоддзя. Калі тэатр заўсёды фіксуе гістарычныя падзеі, дык права творцы зрабіць пастаноўку з сучасным адценнем жыцця. Тэатральнае мастацтва трапляе ў апазіцыю, калі яно шчырае і калі цывілізаваныя апрабіраваныя сродкі дыялога палітыкамі вычарпаны. Вось і нараджаецца алегарычнасць і метафара ў Мастацтве, якія праз стагоддзе зноў жа становяцца пазнавальнымі і актуальнымі.

У наступным сезоне мяркую звярнуцца да п'есы Бертольда Брэхта *"Добры чалавек з Сезуана"*. Дарэчы, Брэхт адзін з першых драматургаў, п'есы якога я ставіў на пачатку сваёй творчай кар'еры. Мне падабаецца, увогуле, творца-паэт. Гэта заўсёды складаная філасофія і тонкая іронія над недасканаласцю самога чалавека. Да прыкладу: Янка Купала як драматург прайграе перад Янкам Купалам-паэтам. Але ж адразу адчуваецца, што п'еса напісана паэтам. Планую яшчэ вярнуцца да спектакля *"Купала"* па п'есе Аляксея Дударава...



***Андрэй АНДРОСІК, мастацкі кіраўнік ТЮГа:***

Магчыма, я пашыру рамкі тэрміну мінулага сезона, але не ўзгадаўшы леташні спектакль *"Хітрыкі Скапэна"* ў Маладзёжным тэатры, што паставілі французскія майстры сцэны, адказ атрымаецца няшчырым і няпоўным. Але калі я ўзгадаю і *"Крывавую Мэры"*, якую паставілі купалаўцы на Малой сцэне, то, мяркую, адказ будзе поўным. Я шчаслівы за творцаў "Крывавай Мэры", бо ў наш мітуслі-

# АНКЕТА

вы і змрочны час акцёры "дэкларавалі" сапраўдны прафесіяналізм не мовай плаката-пратэсту, а менавіта таленавітай метафарычнасцю, алегорыяй у падачы кантэксту п'есы, чым і даказалі моц сцэнічнага мастацтва, мастацтва быць акцёрамі.

Між іншым, аб прафесіі. Менавіта такі магутны акорд прафесійнага майстэрства прагучаў на Міжнародным конкурсе піяністаў, які адбыўся ў лістападзе ў сталіцы. Я па-сапраўднаму зайздросціў атмасферы залы. Атмасферы гармоніі, якая апанавала і выканаўцаў, і слухачоў адначасова.

Дарэчы, даўно забытыя імпульсы энергетычнай сувязі саміх партнёраў па сцэне і тых жа акцёраў з гледачамі павінны нараджацца не штучна, не халоднымі метадамі акцёрскай тэхнікі, а поўнай аддачай "ліцадзейнага арганізма".

Цуд тэатральнага дзейства, вядома, складаецца не толькі з выдатнай рэжысуры і сцэнаграфіі.

У распачатым сезоне тэатр запрасіў даўно вядомага мінскаму гледачу рэжысёра Мікалая Шайко. Ён будзе ставіць твор Карла Гоцы *"Шчаслівыя жабракі"*. Не сказаць, што мы чакаем помпы "рэнесанс-ІІ" у сезоне. А раптам? Урэшце планаваць творчы ўздым і спад немагчыма...

Пра сябе дадам коратка: як кажуць, знаходжуся ў стадыі пошуку. Нядаўна натрапіў на цікавую інсцэніроўку. Маскоўскі драматург Мікіта Баранаў пераклаў на мову тэатра апавяданне Фрэнсіс Бэрнет *"Маленькі лорд Фаундлерой"*. Вельмі светлая п'еса са шматлікімі высакароднымі персанажамі, а менавіта такімі іх робіць маленькі хлопчык — галоўны герой.

А пра дэталі і нюансы, лічу, казаць рана.



***Валерый МАЗЫНСКІ, мастацкі кіраўнік тэатра "Вольная сцэна":***

Адказ патрабуе шчырага падыходу, але цяжка быць аб'ектыўным, калі мастацкія крытэрыі з часам мяняюцца ў практыкаў. Ведаеце, шэкспіраўская пастаноўка *"Сон у ноч сярод лета"*, якую я ўбачыў падчас тэатральнага фестывалю "Белая вежа", годная, каб "здрадзіць" спектаклям у родным тэатры. Хоць, і кажуць: свая кашуля бліжэй да цела. Між іншым, што мяне пераканала канчаткова ў прафесіяналізме калектыву, які стварыў гэты тэатральны цуд, — працаздольнасць акцёраў. Трупа рэпеціравала нават і ўначы перад паказам! Брава! На жаль, як і заўсёды адбываецца з таленавітымі, ні спектакль, ні выканаўцаў не ўзгадалі на тэатральным фестывалі.

У сезоне мяркуем пазнаёміць гледачоў з *"Макбетам"* у перакладзе Дударава, п'есай Кавалёва "Заложніца кахання". Як ведаеце, пры тэатры існуе драматургічная лабараторыя. У стадыі сцэнічнай падрыхтоўкі зараз даводзяцца да апошняй кропкі новыя п'есы Васюка, Граўцова, Кандрашова. Калі і падлічаны драматургі на Беларусі, а іх каля 50-ці, то няхай лепшыя творы ажыццяўляцца на "Вольнай сцэне". А інакш і навошта?..

Менавіта мне цікавы Брэхт. Асабліва *"Кар'ера Артура Уі"*. Дыскусія на тэму: брэхтаўскі тэатр і тэатр абсурду патрабуюць шмат часу, дый увогуле — гэта розныя паняцці.

Толькі хачу дадаць, магчыма, у хуткім часе свет пазнае новыя імёны беларускіх драматургаў — Сідарука, Казачонка. Пісьменнікі працуюць па лепшых узорах сусветнай класікі — інтэлектуальнай драматургіі. Магчыма, і пераклады з іншаземнай мовы на родную адкрыюць новыя небасхілы і чытачам, і гледачам.

А рэжысёр заўсёды апазіцыянер, нават калі і "нараджае" свой сцэнічны твор розных відаў тэатральнага мастацтва. Не абавязкова толькі ў тэатры абсурду.



***Барыс ЛУЦЭНКА, мастацкі кіраўнік Рускага акадэмічнага тэатра, народны артыст Беларусі:***

На жаль, лепшы спектакль назваць не магу. Але моцнае ўражанне зрабіла пастаноўка французскага рэжысёра Філіпа Жанці *"Нерухомы вандроўнік"*.

Зноў-такі, і лепшы спектакль нашага тэатра назваць не магу, бо лічу: усе пастаноўкі Рускага тэатра за подпісам Барыса Луцэнкі добрыя і цікавыя. Самай яркай і ўражлівай лічу пастаноўку *"Блаславі нас, Госпадзі!"* Яна мне дарагая, у ёй — адкрыццё майго стану душы.

Што тычыцца сёлетняга сезона, то мы распачынаем новы жанр: ствараць спектакль з нагоды... Да прыкладу, адкрыццё выставы "Конрад Адэнаўэр — чалавек Еўропы і свету". Трэба сказаць, што і акцёрам спадабалася гэтая ідэя. Спектакль "Спадар Адэнаўэр. Вехі жыцця" знайшоў свайго гледача. Зала рэагавала на прыдуманае намі дзеянне, як на паўнакроўны тэатральны спектакль. Хаця і падобная форма даўно вядома: тэатральнымі сродкамі расказаць аб жыцці неардынарнай асобы. Шляхам аб'яднання сённяшняга дзеяння і самой выставы, канцэрта...

Напрыканцы снежня мяркуем паказаць прэм'еру *"У прыцемках"* Аляксея Дударава. Калісьці я прапанаваў драматургу перарабіць на сучасны лад "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы. Калі ён прынёс п'есу, то ўсе ўбачылі не інтэрпрэтацыю, а зусім самастойны твор. Хаця я і быў расчараваны, але ж рэпетыцыі пачаліся. Спектакль будзе з двух частак: першая — "У прыцемках", другая — "Раскіданае гняздо". Шчыра кажучы, я надта хвалююся, бо на галоўную ролю запрасілі вядомага Мікалая Яроменку, а ён зараз рыхтуецца да прэм'еры "Касцюмера" ў купалаўскім тэатры. Прыйдзецца шукаць іншага выканаўцу.

Пасля дылогіі збіраюся ставіць *"Цымбелін"* Шэкспіра. Гэта будзе кампіляцыя з некалькіх перакладаў.

**Запісала Нэлі КРЫВАШЭЕВА**



***Віталь КАТАВІЦКІ, галоўны рэжысёр Маладзёжнага тэатра.***

Магчыма для кагосьці з прафесіяналаў тэатра мой адказ не будзе навіной: спектакаля-лідэра і спектакля-адкрыцця ў мінулым сезоне не атрымалася на сталічнай сцэне! На жаль, але такая мая думка. Вось акцёр на Беларусі ў тэатральным свеце з'явіўся. Гэта *Віктар Чэпелеў* з Гомеля. Я парадаваўся за яго, калі ўбачыў ягоную працу ў спектаклі *"Фрэдзі"* рэжысёра Натапава.

А што тычыцца Маладзёжнага тэатра, то пастаноўка Алены Унукавай і Марыны Дударавай *"Я хачу быць любімай"* стала этапнай для нашага тэатра. Справа ў тым, што спектакль пастаўлены актрысай і харэографам "маладзёжкі". Увогуле, мне падабаецца тэатральная сістэма многіх заходнееўрапейскіх краін — кантракт. Вядома, што трупа "жыве" 10 гадоў, а потым ёй неабходны абставіны, якія б уплывалі на творчы працэс: ці гэта змена рэжысёра або паловы рэпертуару, ці гэта змена акцёраў-лідэраў. Адным словам, тэатр — жывы арганізм, якому неабходны творчыя метамарфозы. Нават і замежныя гастролі станоўча ўплываюць на настрой акцёраў: падобна санаторыю для здаровага творчага патэнцыялу чалавека. Урэшце пры нашай прафесіі і славалюбным неабходна быць. Да прыкладу, наш тэатр пабываў у Егіпце, Турцыі.

А ў новым сезоне я не ведаю — ці паспею вынесці на суд гледачоў сваю чарговую пастаноўку. Я толькі "выношваю" ідэю стварыць спектакаль *"Двайнік"* паводле Дастаеўскага...



***Яўген КРЫЖАНОЎСКІ, мастацкі кіраўнік тэатра мініяцюр "Хрыстафор":***

З вялікім задавальненнем адзначу перш-наперш спектакль нашага тэатра *"Добра сядзім!"*, бо як кажуць: пакуль самі сябе не пахвалім, то ніхто гэтага не зробіць. А калі шчыра дый сур'ёзна, то мне спадабалася пастаноўка маскоўскага рэжысёра Уладзіміра Салюка *"Голы кароль"* на сцэне Тэатра юнага гледача. Лічу, што з прыходам галоўнага рэжысёра Андрэя Андросіка тэатр мае пэўны шанец стаць найпапулярным у сталіцы. Яшчэ ў мінулым сезоне, на маю думку, значна вылучыўся наш Нацыянальны тэатр імя Я.Купалы пастаноўкай Раеўскага *"Ромул Вялікі"*. Калі крытыкі спрачаюцца вакол названай пастаноўкі дагэтуль, то, спадзяюся, і гледачам, як мне, заўсёды будзе цікава на гэтым спектаклі.

Сёлетні сезон для тэатра "Хрыстафор", — юбілейны. Нам спаўняецца дзесяць год! Вядома, акцёры падрыхтавалі і святочны спектакль дзеля такой падзеі — спектакль *"Выбранае"*. Як зразумела ўжо з самой назвы, новая наша пастаноўка не што іншае, як "папуры" з ранейшых спектакляў, якія лічацца за "Хрыстафорам" 10 гадоў.

Трэба сказаць, што ў новым сезоне ў тэатра засталіся старыя праблемы — грошы. Так! Менавіта ў гэткую празаічную сітуацыю трапляе тэатральнае мастацтва — і не толькі Беларусі, і не толькі незалежныя сцэны. Амаль усе сталічныя трупы намагаюцца пераадолець грашовыя праблемы рознымі шляхамі. Да прыкладу, "Хрыстафору" прапаноўваюць супрацоўніцтва такія мэтры тэатральнага сузор'я жанру камедыі, як рэжысёр Раман Вікцюк, пісьменнікі Міхаіл Жванецкі, Сямён Альтаў. Безумоўна, тандэм выдатнай рэжысуры і тэкстаў дасць у выніку касавыя спектаклі. Але ж, прабачце, і каштуе ж праца славутых імёнаў! Таму ад ангажэментаў "хрыстафораўцы" пакуль утрымліваюцца. Мяркуем і марым, што ў хуткім часе выдатны беларускі рэжысёр Мікалай Пінігін знойдзе час на сумесную працу з нашым тэатрам.



***Расціслаў БУЗУК, кандыдат мастацтвазнаўства, дырэктар Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі:***

— Як чалавек выхаваны, я пачну з ухвал некаторым сваім калегам. Вось, напрыклад, мяне надта парадаваў і ўразіў у мінулым сезоне ДАВТ операй Барадзіна *"Князь Ігар"* і балетам на музыку Мдзівані *"Страсці"*. Зразумела, шмат спрэчнага засталося за кулісамі, але ж гэтыя пастаноўкі назавем — Мастацтвам. Скажу болей, нягледзячы на вузкую спецыфіку маёй працы, як працы ў музычным тэатры, хачу адзначыць і пастаноўку Вячаслава Восіпава *"Букееў і кампанія..."* на сцэне Рускага акадэмічнага тэатра. Вось менавіта гэтыя спектаклі я б вылучыў як лепшыя пастаноўкі леташняга сезона.

Што тычыцца Тэатра музычнай камедыі, то адзначу: сёлетні сезон мы распачалі прэм'ерай аперэты Оскара Штрауса *"Капялюш Напалеона"*. Толькі не блытайце з кампазітарам Іаганам Штраусам. На мой погляд, гэтая пастаноўка рэжысёра з Расіі Барыса Лагоды — таксама падзея ў тэатральным жыцці Мінска.

Нашага малодшага гледача чакае сюрпрыз. У гэтым сезоне мы мяркуем паказаць і дзіцячы балет Чайкоўскага *"Зачараваны прынц"* па матывах балета-казкі "Шчаўкунок". Падкрэсліваю — па матывах, бо калі глядач убачыць нашу новую пастаноўку, я спадзяюся, адзначыць новы рэжысёрскі ход і мастацкую смеласць у даўно вядомым творы.

**P.S.** Хай тысячу разоў
мяне папракнуць чытачы
ў эпатажнасці, але на правах
аўтара задумкі такога
анкетавання, дый простага
аматара тэатра,
усё ж падвяду рысу.
Не цікавяць творчыя працы
калег сталічных рэжысёраў.
Нават не ўзгадвалі некаторых
вартых увагі прэм'ер.
Магчыма, радавацца
за поспехі калег развучыліся?
Нейк архіместачкова пачаўся
і новы тэатральны сезон
у сталіцы. А раптам гэтая
незацікаўленасць
не што іншае, як маска
"Лiцедея" ў рэаліях жыцця,
каб захаваць толькі сваю
карону і каралеўства?
Сумна, спадары.

**Матэрыялы рубрыкі падрыхтавала Жанна ВАСАНСКАЯ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА і Ларысы КАБЕРНІК**

# БЕЛАРУСКІЯ САЛАЎІ

**_Гісторыя беларуска-расійскіх музычных сувязяў хавае ў сабе многія і многія таямніцы. Калі пра літаратурныя і мастацкія стасункі яшчэ ёсць літаратура, то пра музыку згадваецца шмат радзей. Асобная тэма, асобны абсяг для гаворкі, для даследаванняў — лёсы спевакоў, якія нарадзіліся на Беларусі, а асноўнае сваё жыццё звязалі з Расіяй. Пра іх — беларускіх салаў'ёў — і распачынае аповеды газета "Культура"._**

## ІМЯ ЯЕ Ў ЗАБЫЦЦІ

З году ў год у старэнькую рыжскую кватэру Ганны Рыгораўны Жарабцовай прыходзілі падлеткі, маладыя хлопцы і дзяўчаты. Сівенькая, сталага веку жанчына давала прыватныя ўрокі спеваў. Яшчэ ў 1922 годзе Ганна Жарабцова-Андрэева пакінула Савецкую Расію. Мажліва, выбар камерная спявачка і педагог зрабіла досыць правільны. Хіба ж была гарантыя, што яе паходжанне не стане прычынай для арышту праз год-два, праз дзесяцігоддзе?.. Усё ж такі нарадзілася Аня (а здарылася гэта ў Гродне 13 верасня 1868 года) у сям'і камандзіра Пермскага палка. Такая акалічнасць наўрад ці выпала б з поля зроку пільных, што раслі б як грыбы пад дажджом, спецслужбаў маладой таталітарнай дзяржавы. Што ім, гаспадарам-уладарам, да вялікага таленту, да яго палёту над усялякімі там "ізмамі". І застанься Ганна Рыгораўна ў Расіі, то зусім не выключана, што дажывала свой век ці хутчэй — згубіла б астатак жыцця ў канцлагеры сталінска-берыеўскай сістэмы. Яшчэ ж задоўга да сумна славутага 1937 года дзяржава, сістэма ўжо выдалі інтэлігенцыі найпершую "прэмію". Ужо ў дваццатыя гібелі на Салаўках псіхолаг прафесар А.Суханаў, філосафы А.Мейер, А.Аскольдаў, гісторыкі М.Прыселкаў, Г.Гардон, усходазнаўца П.Пігулеўская, арнітолаг Г.Палякоў, літаратуразнаўца Дз.Ліхачоў... І, канешне ж, спявачка, за плячыма ў якой сама гісторыя рускага опернага мастацтва, пакінула Расію. А магла б перадаць свой багаты прафесійны вопыт суайчыннікам, магла б працаваць ці то ў Маскве, ці то ў Мінску...

Хто ж яна — Ганна Рыгораўна Жарабцова-Андрэева (паводле прозвішча першага мужа — Яўрэінава)? Дзе, на якой прыступцы яе месца ў гісторыі музычнай культуры?..

Адукацыю напачатку Аня атрымала ў Кацярынінскім інстытуце. У 1887 — 1892 гадах навучалася ў Пецярбургскай кансерваторыі. У класе Наталлі Ірэцкай. Колькі слоў пра гэтага таленавітага педагога, што спрычынілася да прафесійнай адукацыі нашай зямлячкі. У 1874 — 1922 (а гэта на працягу амаль паўстагоддзя, да самай смерці, якая прыйшла да Наталлі Аляксандраўны на 78-м годзе жыцця) Ірэцкая працавала ў кансерваторыі. Прафесар з 1881, заслужаны прафесар з 1909... Яна і сама была "выдатнай выканальніцай рамансаў", "лёгка спраўлялася нават з кантральтавымі рэчамі, мяняючы тэмбр голасу да непазнавальнасці".

Асаблівую ўвагу Наталля Аляксандраўна надавала развіццю роўнасці, рухомасці і гібкасці голасу, інтанацыйнай выразнасці, распрацоўцы мастацкай інтэрпрэтацыі. Іван Сяргеевіч Тургенеў (пазнаёмілася з ім спявачка ў Парыжы) у адным з лістоў адзначыў Ірэцкую як лепшую вучаніцу Паліны Віярдо. Наталля Аляксандраўна творча засвоіла методыку яе выкладання. Дзесяткі спевакоў выхавала Ірэцкая. Многія з яе вучняў выступалі на сцэнах беларускіх гарадоў.

У 1891 годзе Аня Жарабцова дэбютавала ў кансерваторскім канцэрце, арганізаваным А.Рубінштэйнам. А як закончылася вучоба, была запрошана ў Прагу. Там прыняла ўдзел у прэм'еры оперы А.Рубінштэйна (22 чэрвеня 1892, Гарадскі тэатр). Праз колькі дзесяцігоддзяў Прага стане прытулкам Міхася Забэйды-Суміцкага. А пакуль жа ў сталіцы Чэхіі гучаў голас Ганны Жарабцовай. Следам за Прагай яна на працягу двух гадоў выступае з канцэртамі ў гарадах Германіі. Удзячная публіка вітае спявачку ў Берліне, Кёнігсбергу, Дрэздэне, Лейпцыгу, Гамбургу. Партыю фартэпіяна выконвае А.Рубінштэйн. Пазней Жарабцова гастралюе ў Амстэрдаме, Гаазе, Ротэрдаме, Парыжы, Лондане, дзе дае сольныя канцэрты, прымае ўдзел у сімфанічных вечарах.

Праз некаторы час наша зямлячка вяртаецца ў Расію. Вядзе актыўную канцэртную дзейнасць. Выступае з гастролямі ў Пецярбургу, Маскве, Кіеве, Адэсе, Харкаве, Ніжнім Ноўгарадзе... Дарэчы, у 1894 годзе ў Адэсе Жарабцова выступае ў сімфанічным канцэрце пад кіраўніцтвам М.Рымскага-Корсакава. І ў гэтыя ж гады маладая, але ўжо вопытная, вядомая ўсёй Расіі, атрымаўшы прызнанне і ў Еўропе, спявачка прыязджае ў горад свайго дзяцінства, у Гродна. На вялікі жаль, немагчымым падаецца расшукаць нейкія фатаграфічныя сведчанні гастроляў Жарабцовай у Гродне. Хаця ж, здаецца, і не такі вялікі ў гістарычным разуменні час прайшоў. І ўсё ж... Можна шмат што ўявіць з тых далёкіх дзён. Пра горад маленства спявачкі лаканічна, але дакладна згадвае Аркадзь Смоліч у "Геаграфіі Беларусі": "З старых будынкаў (а ёсць іх у Гародні даволі) асаблівае ўвагі варта Барысаглебская царква, што знаходзіцца ў Каложы (прадмесце Гародні за р.Гараднічанкаю, проці замку)... Царква гэтая стаіць ля самага берагу Нёмна, і дзеля таго частка яе сценаў разам з берагам абвалілася. Царква будавана ў візантыйскім стылі і яе сцены маюць у сярэдзіне ўмураваныя гаршкі-галаснікі для лепшага гуку спеваў. Зверху над гэтай цэннай памяткай старасвецкага будаўніцтва зроблена дзераўляная павець"... Ці прыходзіла да руінаў Каложскае царквы спявачка? Як мне падаецца, не магла не прыйсці. Каложская царква давала шанц правесці эксперымент са сваім галасам, з большай дакладнасцю разгледзець яго адценні, фарбы. Лічылася, што зместам голасу Жарабцовай было меццо-сапрана. Італьянскае "меццо" перакладаецца як "сярэдні". Сапрана ж — "самы высокі пеўчы (жаночы або дзіцячы) голас". Зычайна сэнс у вымярэнне "сапрана" ўкладваўся наступны: "Каларатурнае сапрана... лірычнае сапрана". Выпрабаваць адценні, паслухаць гаму пераліваў, здаць самой сабе экзамен — лепшага месца на тое, чым Каложа, не знайсці. А вечарам — да ўважлівых і патрабавальных слухачоў. Правінцыйным па тым часе музычнае жыццё горада не назавеш. У Гродне працаваў выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі арганіст кампазітар І.Глінскі. А ў 1883 годзе было арганізавана літаратурна-музычнае таварыства. У Гродне гастралявалі Г.Есіпава, В.Давыдава, С.Рахманінаў...

Што ж было ў рэпертуары Жарабцовай? Першай наша зямлячка выканала рамансы С.Рахманінава "Мелодыя", "Лёс", А.Глазунова "Мелодыя", А.Арэнскага "Шчасце", І.Стравінскага, С.Пракоф'ева. Многія вакальныя творы К.Дэбюсі, М.Равеля, Э.Шасона, Р.Штрауса ўпершыню прагучалі ў Расіі ў выкананні Жарабцовай-Андрэевай. Спявачцы прысвяцілі свае рамансы М.Рымскі-Корсакаў ("Ангел", "Па небу апоўначы"), А.Арэнскі ("Паэзія"), А.Рубінштэйн.



*В. М. Бутама-Названава*

Музычная крытыка ў свой час заўважыла пра спявачку: "Г.Р.Жарабцова з'яўляецца ў нас адзінаю прафесійнаю спявачкай, засяродзіўшай усе свае сілы на камернай вакальнай музыцы. Адзіная яна тут і па майстэрству выканання. Па галасавых сродках, па прыродзе сваёй ні ў якім разе не выключных, яна сілаю свайго мастацтва пакідае ў музыканце пачуццё такога глыбокага эстэтычнага задавальнення, якое не дадуць яму артысты нават з першакласнымі галасамі, але ардынарныя па сваёй музыкальнасці..."

У 1907 — 1922 гадах наша зямлячка выкладала сольныя спевы ў Пецярбургскай кансерваторыі (з 1913 прафесар). У сваёй педагагічнай практыцы Ганна Рыгораўна абапіралася на традыцыі вакальнай школы Наталлі Ірэцкай. Наталля Аляксандраўна працавала поплеч, заўсёды адгукалася на запыты сваёй маладзейшай калежанкі, сваёй колішняй вучаніцы. А шмат хто з вучняў ужо Жарабцовай-Андрэевай пакінуў свой след у гісторыі музычнага мастацтва Расіі: гэта З.Арцем'ева-Лявонцьева, М.Брыян, Л.Кіч, Я.Малініна. Урокі спеваў у нашай зямлячкі брала і Зоя Лодзій. Так, тая самая легендарная Лодзій, унучка Лодзі Лодзія, дачка Пятра Лодзія... Зоя Лодзій, дзякуючы каторай на доўгія дзесяцігоддзі да ўдзячнага слухача прыйшоў раманс "Где вы, счастливые дни".

Сёння імя Ганны Жарабцовай-Андрэевай — у забыцці. Сучасніку зусім невядомы яе ўнёсак у музычную культуру, яе жыццё, поўнае багатых і ўражлівых падзей. Дык можа гарадзенцы першымі парупяцца пра вяртанне памяці пра выдатную спявачку апошняга дзесяцігоддзя XIX — пачатку XX стагоддзя?..

## КАМЕРНАЯ СПЯВАЧКА З БЫХАВА

Сярод нашых суайчыннікаў, што занялі годнае месца ў расійскай музычнай культуры, — і камерная спявачка Вольга Мікалаеўна Бутама-Названава. Нарадзілася яна ў Быхаве 14 кастрычніка 1888 года. Як і многія яе суродзічы, на радзіме колішняя зорка расійскай сцэны, здаецца, і не згадваецца, а славай сваёю, жыццёвымі здабыткамі поўніць суседнюю культуру. Але што паробіш, так з намі, беларусамі, заўжды. Губляць мы прызвычаіліся. А вось шукаць, знаходзіць...

Якім жа быў шлях па жыцці, на сцэне нашай малавядомай зямлячкі? Спевам Вольга навучалася ў Пецярбургскай кансерваторыі (1910 — 1915 гады). Настаўніца — Наталля Аляксандраўна Ірэцкая, славутая спявачка — была першым дарадцам у станаўленні голасу і другой нашай зямлячкі — Ганны Рыгораўны Жарабцовай-Андрэевай. Скончыўшы кансерваторыю (а было ўжо Вользе 27 гадоў), Бутама-Названава працавала ў складзе першага пецярбургскага камернага гуртка (кіраўнік В.Каратыгін). Побач з Вольгай Мікалаеўнай на сцэне працавалі З.Лодзій, А.Аляксандровіч, З.Арцем'ева-Лявонцьева. Дарэчы, калі знаёмішся з біяграфіяй спявачкі, толькі і здзіўляешся багаццю асоб, якія сустракаліся на яе жыццёвым шляху. Так здараецца з людзьмі апантанымі, энергічнымі, здольнымі, таленавітымі ў розных сферах. Менавіта такой была і Бутама-Названава.

З вялікім поспехам Вольга Мікалаеўна выступала з сольнымі канцэртамі ў Маскве, Кіеве, Петраградзе, іншых гарадах. Прымала ўдзел у сімфанічных канцэртах пад кіраўніцтвам А.Зілоці, С.Кусявіцкага. Болей за тое — спявала ў аўтарскіх канцэртах С.Рахманінава, А.Грачанікава, С.Пракоф'ева. З 1919 года жыла ў Кіеве. Праз два гады перабралася ў Маскву. На канцэртнай эстрадзе выступала да канца 1920-х гадоў у ансамблі з вядомымі піяністамі М.Біхтэрам, Ф.Блуменфельдам, Г.Нейгаузам, Б.Яварскім. Сучаснікі адзначалі, што Вольга Бутама-Названава валодала прыгожым і гучным (асабліва ў ніжнім рэгістры) голасам. Выкананне вызначалася выразнасцю і чысцінёй інтанацыі. У 1926 годзе гастралявала ў Берліне і Парыжы. У 1928 — 29 гг. правяла ў Малой зале Маскоўскай кансерваторыі і ў зале ленінградскага "Таварыства сяброў камернай музыкі" цыкл канцэртаў на тэму "Пушкін у музыцы".

Рэпертуар спявачкі складаўся з сачыненняў рускіх і замежных кампазітараў (М.Глінка, М.Рымскі-Корсакаў, С.Танееў, І.С.Бах, Л.ван Бетховен, Р.Шуман, Ф.Шуберт), быў самы розны па сваім характары (лірычныя, драматычныя і камічныя творы). Мела месца ў рэпертуары працяжная сялянская песня. З часам асаблівае месца ў музычным лёсе нашай зямлячкі занялі творы А.Аляксандрава, Ф.Гліэра, М.Гнесіна, А.Крэйна, С.Пракоф'ева, Б.Яворскага. Такому шматабсяжнаму і шматграннаму дыяпазону можна толькі падзівіцца. Як дзівіўся ў свой час і Анатоль Васільевіч Луначарскі, які вельмі высока ацэньваў талент спявачкі.

Старонкі гісторыі (з гісторыі культуры, мастацтва — ці не ў першую чаргу) з дзесяцігоддзямі сціраюцца. Многае губляецца. Памяць становіцца бяднейшай. Так і ў дачыненні да спевакоў, голас каторым, жыццё каторым падаравала беларуская зямля. Многія і многія імёны не ўшанаваны, застаюцца па-за межамі нацыянальнай духоўнасці. Як імя артыста оперы, лірыка-драматычнага барытона Восіпа Вінаградава, а таксама драматычнага тэнара Пятра Зялінгера (абодва нарадзіліся ў Вільні, Зялінгер, дарэчы, сябраваў з самім Манюшкам). Як імя Васіля Калініна... Апісаць іх лёсы, паказаць пераемнасць пакаленняў, паслядоўнасць руху да вяршынь культуры, паказаць тое, што і мы, беларусы, багатыя, нешта маем, — хіба ж не сённяшняга дня клопат?!

## АНТРЭПРЭНЁР ЛЕАНІДА СОБІНАВА І ФЁДАРА ШАЛЯПІНА

Наш суродзіч — Уладзімір Мікалаевіч Брантгендлер — меў прыгожы сцэнічны псеўданім. Як артыст оперы (барытон, пасля тэнар) выступаў на сцэне пад прозвішчам Любімаў. Канешне ж, кіравала артыстам вялікае жаданне быць любімым, жаданым для публікі.

Лепшыя партыі Уладзіміра Любімава, які нарадзіўся ў 1855 годзе ў тагачасным Брэст-Літоўску, — Рыгалета, Радамес, Жэрмон. Сцэнічнымі партнёрамі нашага земляка з'яўляліся Снарская, Сакалова-Фрэліх, Тычынскі, Ухтомская, Фінгерт. Імёны на перакрыжаванні дзевятнаццатага і дваццатага стагоддзяў даволі гучныя, досыць вядомыя музычнай публіцы.

Што вядома пра жыццё, творчасць брэсцкага спевака, імя якога нават радком не згадваецца ў беларускіх энцыклапедыях? Ды, на вялікі жаль,вельмі мала. Вядома, што адукацыю Уладзімір атрымаў у рабінскай школе. Спевам навучаўся ў Маскоўскай кансерваторыі (у Дж.Гальвані і Л.Казаці). Пасля выступаў на оперных сцэнах Харкава, Казані (1884 — 1886), Екацярынбурга (1887), Тыфліса, Адэсы, Пецярбурга (Народны дом, 1900-я гады).

Займаўся і антрэпрэнёрскай дзейнасцю — у Вільні, Маскве, Пецярбургу, Екацярынбургу. У Тыфлісе ў трупе Любімава пачынаў сваю творчую кар'еру Фёдар Шаляпін.

У 1887 годзе са сваёй трупай гастраляваў у Лондане і Манчэстэры. А ў 1888 годзе — у Берліне. У антрэпрызе Любімава выступалі Собінаў, Тартакоў, Фігнер, Фострам.

Яшчэ вядома, што наш суродзіч даваў урокі спеваў Віцінгу. Постаць Яўгена Эдуардавіча Віцінга — вучня Любімава — у стоню разоў лепш вядома на Беларусі. У свой час нават "Маладосць" (восьмы нумар за 1957 год) друкавала яго ўспаміны пра Шаляпіна. Справа ў тым, што з 1950 па 1959 гады Віцінг выкладаў у Мінскай кансерваторыі. Цікава, ці расказваў ён сваім беларускім вучням пра Любімава? Адметна, што спевам у яго Яўген Эдуардавіч навучаўся ў час, калі пакінуў сталае навучанне ў Пецярбургскай кансерваторыі.

У 1995 годзе ніхто на Беларусі не заўважыў 110-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Любімава. Яшчэ адзін прыклад усебеларускай духоўнай занядбаласці.

Такія вось розныя лёсы. За кожнай з біяграфій — шматграннае жыццё, прысвечанае творчасці. Не згубіць бы нам у памяці іх імёны, зберагчы б добрую памяць. А многае з невядомага — расшукаць і даследаваць!

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ



## Віктар ТУРАЎ:

# “ПРА СЯБРОЎСТВА З ВЫСОЦКІМ Я МАЎЧАЎ ШАСНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ...”

## *Дыялог пра чалавека, які ішоў “у страі заўсёды не ў нагу...”*

*(Працяг. Пачатак у № 42 — 47)*

**Барыс КРЭПАК:** Але я ведаю, што не ўсё было так проста ва ўзаемаадносінах Марыны з Высоцкім. Пра гэта яна напісала і ў сваёй кнізе “Уладзімір, альбо Перарваны палёт...”

**Віктар ТУРАЎ:** Несумненна. Але Марына разумела яго болей за іншых. Так, былі ў яе жыцці і хвіліны роспачы, калі яна хацела пакінуць Валодзю, былі і цудоўныя перыяды, калі неба было чыстым і бязвоблачным, а сэрцы ўбіралі ў сябе пяшчотныя гукі сярэбраных струн. Але, безумоўна, былі і іншыя, драматычныя моманты...

**Б.К.:** Звязаныя з жанчынамі? Вось нядаўна ў прэсе з’явілася яшчэ адно “каханне” Высоцкага, нейкая Аксана Афанасьева, тады студэнтка, а сёння мастачка па касцюмах. Кажуць, Валодзя ў апошні год свайго жыцця сустракаўся з ёй пастаянна і нават хацеў з ёй павянчацца. На гэта ёсць сведчанні і Залатухіна, і Янкловіча, і яшчэ кагосьці... Ды і сама Марына піша, што адна з буйных сварак была з прычыны таго, што ён назваў яе ў сне чужым імем. А другая, таксама буйная: калі Высоцкі Марыну “выкінуў у калідор” і “зачыніўся ў ванным пакоі, каб дапіць бутэльку”. І тады, як кажа Уладзі, яна грымнула дзвярыма і “паслала яго да д’ябла”.

**В.Т.:** Аднойчы, калі я згодна з Валодзінай просьбай праважаў Марыну з Мінска да Брэста, яна нібы раскрыла сваю душу, што здаралася з ёй не часта, і сказала з болем: “Ведаеш, Віця, я, мабыць, хутка не вытрымаю. Калі Валодзя не спыніцца ў некаторых рэчах, дык я пайду ад яго, гэта дакладна. Ты сам бачыш, як я стаўлюся да Валодзі, але Бог сведка, гэта ўжо на мяжы”. Безумоўна, “адкрытым тэкстам” яна мне больш нічога не сказала, ды і я сам ніколі не імкнуўся ўмешвацца ў іхнія схаваныя, інтымныя стасункі. Але мяркую, што справа была не ў жанчынах, не ў Валодзіных захапленнях імі. Хутчэй — наркотыкі, я сёння гэта разумею. Наколькі мне было вядома, “жаночая” праблема для яго не была такой, як для некаторых — першаснай, прыярытэтнай. Безумоўна, ён быў жывы чалавек і хтосьці быў у яго “на баку” ў нейкія перыяды. Але я ведаю і іншае: Марына была чалавекам шырокіх еўрапейскіх поглядаў і быць дробязнай з гэтай нагоды не магла. Адзінае, што было мне вядома, дык гэта тое, што Марына, калі штосьці і ведала, дык не хацела, каб пра гэта ведалі іншыя...

**Б.К.:** Ёй, безумоўна, было крыўдна, калі нехта на вушка ёй нашэптваў пра “авантуры” яе мужа?

**В.Т.:** Несумненна, як і ўсякай нармальнай жанчыне. Хаця на Захадзе ў артыстычных колах да “гэтага” ставяцца цвяроза. Але Марыну больш хвалявала тое, што “гэта” ён дазваляў сабе тады, калі зрываўся, адыходзячы ў “нецвярозую рэчаіснасць”. Але яе ён кахаў. Кахаў па-сапраўднаму, бо па вялікім рахунку Марына заставалася для яго адзінай жанчынай.

**Б.К.:** Безумоўна, жыць у дзвюх розных краінах і столькі гадоў — таксама не падарунак! Не кожны здолеў бы гэта вытрываць...

**В.Т.:** Так. Я сам нейкі час жыў “на два гарады”. І гэта добра сабе ўяўляю. Але я заўсёды буду ўдзячны Марыне за тое, што яна ўзяла такі ўдзел ў ягоным лёсе і прадоўжыла ягонае жыццё на некалькі гадоў. Трагедыя магла здарыцца з ім значна раней, і вялікі ёй дзякуй, што яна падарыла яму магчымасць пабачыць вялікі свет і напісаць столькі песень, і сыграць столькі спектакляў і ролей у кіно. Бо, скажам шчыра, Валодзя быў “невыязны”, і толькі калі стаў афіцыйным мужам Марыны, памежныя бар’еры перасталі для яго існаваць. Дзякуючы ёй, ён паглядзеў розныя краіны і кантыненты, а калі мы сустракаліся, ён захоплена пераказваў мне свае ўражанні. І аднойчы даверліва сказаў: “Ведаеш, Віця, там добра, але я адсюль ніколі б не паехаў. Так, ездзіць хачу, але застацца па-за сваім домам — прабачце...”

**Б.К.:** І гэта былі не пустыя словы?..

**В.Т.:** Што ты! Гэта была цалкам шчырая, сардэчная гутарка, а не тое, калі адно думаеш, пра іншае — гаворыш, а трэцяе — робіш... Аднойчы, падчас наведвання Францыі (калі не памыляюся, гэта супала з Алімпійскімі гульнямі ў Канадзе), насуперак абмежаванай візе, Марына павезла Валодзю ў ЗША, дзе яе брат працаваў у Галівудзе, а потым — у Канаду. Там адбылася сустрэча Высоцкага ў адным з амерыканскіх універсітэтаў. Там Валодзю пачалі правакаваць, называючы яго “дысідэнтам”, “барацьбітом з савецкім рэжымам” і так далей. І тады Валодзя страшэнна раззлаваўся і абклаў усіх мацюкамі: “На гэтую тэму я з вамі размаўляць не жадаю. У сваёй творчасці я кажу пра боль маёй краіны, таму што люблю яе і нікому не дазволю яе аблайваць”.

**Б.К.:** Аналагічны выпадак адбыўся і з Ясеніным падчас наведвання Нямеччыны, калі эмігранты таксама хацелі звязаць ягоную творчасць з антысавецкімі настроямі.

**В.Т.:** І Ясенін, і Высоцкі былі сапраўднымі патрыётамі. Гонар і годнасць, пры ўсіх заганах Расіі — уласцівыя абодвум у вышэйшай ступені. Не ведаю, чаму слова “патрыятызм” мы сёння саромеемся вымаўляць... Калі Валодзя вярнуўся ў Маскву, яго адразу выклікалі куды трэба і папыталіся: “Мы ж далі вам візу толькі ў Францыю. А вы з’ездзілі нават у ЗША і Канаду. Як жа так, Уладзімір Сямёнавіч?” — “А ў чым пытанне? Я ж тут! Я ж вярнуўся, там не застаўся! Чаго ж вы ад мяне хочаце?..”

**Б.К.:** Віктар, ці былі ў цябе якія-небудзь непаразуменні альбо сваркі з Высоцкім?

**В.Т.:** Практычна не. Не было. Хаця... Распавяду адну гісторыю.



Аўтограф песні У.Высоцкага да фільма “Я родам з дзяцінства”



У ролі Гамлета

Збіраўся я здымаць карціну “Жыццё і смерць дваранiна Чартапханава” ў раёне Браслаўскіх азёр, на памежжы Літвы, Латвіі і Беларусі. Мясціны там дзівосныя, казачныя. Я запрасіў Валодзю пабыць тут трошку, адпачыць. Ён адразу з радасцю прыімчаўся на тыдзень: стомлены, змардаваны, зялёны, нават адмовіўся жыць у гатэлі і захацеў начаваць у прыгожай лазні на беразе вялікага возера. Там у нас быў невялікі маёнтак, дзе мы пабудавалі дэкарацыі. Але сутнасць не ў гэтым. Сутнасць у тым, што Валодзя вельмі хацеў сыграць у маёй карціне галоўную ролю. Дадзеныя ў яго для гэтага былі: акрамя таленту, ён вельмі любіў коней, сам быў цудоўным коннікам. Спачатку на ролю Чартапханава я хацеў запрасіць Вячаслава Ціханава, але той ужо ўвайшоў у “Семнаццаць імгненняў вясны”, і я паабяцаў на гэтую ролю паспрабаваць Валодзю. Але так атрымалася, што я ўзяў Бронюса Бабкаўскаса, цудоўнага акцёра з Панявежскага тэатра.

**Б.К.:** Натуральна, Высоцкі пакрыўдзіўся?

**В.Т.:** Так, вельмі. Казаў мне: “Узяў нейкага літоўца...”. А ў той час, сапраўды, вельмі шмат літоўскіх акцёраў здымаліся ў савецкім кіно: Масюліс, Адамайціс, Баніёніс, Нарэйка, Будрайціс. Гэта быў тады сапраўдны прарыў літоўскай акцёрскай школы ў наш кінематограф. І Валодзя аднойчы напалову ўсур’ёз, напалову жартам сказаў мне: “Вось усе іх здымаюць, усе мяркуюць, што яны — думаючыя акцёры. Але сутнасць у тым, што яны проста кепска ведаюць рускую мову, і пакуль там, усярэдзіне, перакладаюць, здаецца, што яны ў гэты момант аб нечым сур’ёзна разважаюць...”. Безумоўна, Валодзя тут “перабраў”, таму што літоўскія кінаакцёры, сапраўды, тады былі на вышыні.

**Б.К.:** І чым жа скончыўся ваш гэты “інцыдэнт”?

**В.Т.:** А скончыўся ён так. Калі карціна была паказана па тэлебачанні, я якраз знаходзіўся ў Маскве. І Валодзя, паглядзеўшы фільм, нейкім чынам расшукаў мяне па тэлефоне і запрасіў да сябе. І адразу ж: “Віншую цябе з цудоўнай карцінай. І даруй мне, калі ласка. Ты зрабіў правільны выбар, што ўзяў Бронюса Бабкаўскаса на ролю Чартапханава. Ён сыграў геніяльна. Я б так не здолеў”. Гэтыя словы прабачэння мог сказаць толькі вельмі таленавіты чалавек, шчодры і высакародны, які ведае цану чужому таленту і не баіцца сказаць пра гэта ўслых...

**Б.К.:** Высоцкі не сыграў шмат “сваіх” ролей у кіно...

**В.Т.:** Так, шмат. Ён марыў сыграць галоўную ролю ў фільме “Жыве такі хлопец”. І Шукшын яго нават прабаваў. Але раней ён ужо паабяцаў гэтую ролю Леаніду Кураўлёву. І, дарэчы, Валодзя быў рады за Кураўлёва. Той жа Шукшын хацеў, каб Валодзя іграў Разіна ў ягоным фільме, але карціна з прычыны смерці Васіля Макаравіча не адбылася. Высоцкі прабаваўся на ролю Пугачова ў Яўгена Мацвеева, марыў сыграць у Таркоўскага, павінен быў здымацца ў ролі Блазна ў “Стрэлах Робін Гуда”, але сыграў яго нябожчык Юра Каморны. Ды ці мала добрых ролей ён мог бы сыграць? Шкада...

**Б.К.:** Тое ж самае адбывалася і з песнямі Высоцкага, якія жорстка, па чыімсьці чыноўніцкім жаданні, “выкрэсліваліся” з фільмаў. Затое, на маю думку, яму больш пашчасціла з тэатральнымі ролямі: Гамлет, Хлапуша, Галілей, Лапахін, Свідрыгайлаў...

**В.Т.:** Так, Валодзя вымушаны быў жыць неардынарна — такі быў у яго душэўны стан. Шмат хто яго асуджаў, лаяў, але ніхто не ведаў, што адбывалася ў ягонай душы, калі сэрца амаль на грані зрыву. І ён іншы раз адыходзіў з гэтага свету, магчыма, не лепшым чынам. Але, мабыць, гэтым ён захоўваў сябе? Сваю ўнутраную волю? Бо не пойдзеш жа да некага, не раскажаш, не паскардзішся, не паплачаш у чужую камізэльку, каб цябе зразумелі і пашкадавалі. Ды і мала хто быў здольны ў той час яму дапамагчы.

**Б.К.:** Тым не меней Высоцкаму вельмі дапамаглі — але зусім не “сильные мира сего” і ўвогуле ўласна нават не людзі, а дзве рэчы: гітара і цвёрдая, непрадажная, нязменная грамадзянская пазіцыя.

**В.Т.:** Я неаднаразова быў сведкай таго, як імя Высоцкага рабілася паролем, шмат што, у тым ліку і сяброўствы, і чалавечыя стасункі, і размежаванні паводле прынцыпу “свой-не свой”, правяраліся стаўленнем да ягоных песень...

**Б.К.:** Але сам ён дапамагаў усім? Ці не так?

**В.Т.:** Так, дапамагаў усім, хто прасіў аб дапамозе. Аднаму дапамог атрымаць кватэру, другому — машыну, трэцяму — тэлефон альбо сцэнарый. Не хацелася б пра гэта казаць, але многія жорстка эксплуатавалі ягоную папулярнасць і магчымасць увайсці проста да любога кіраўніцтва. Сам жа Валодзя палову жыцця быў неўладкаваны. Многія гады ён пражыў разам з маці ў вельмі сціплай кватэрцы, часта даводзілася наймаць жыллё ў сяброў. Толькі за пяць гадоў да смерці ў яго з’явілася свая кааператыўная кватэра на Малой Грузінскай. Памятаю, з якой любоўю ён яе абстаўляў, як набываў мэблю, як узрадваўся падараванаму яму знакамітаму століку Таірава, як усталёўваў кухонныя паліцы, якія потым былі запоўнены бляшанкамі з гарбатай, прывезенымі з розных краін і кантынентаў. Гарбата, свежая, моцная, духмяная — Валодзя вельмі любіў яе і гатаваў сам, асабліва ў хвіліны звышнапружання альбо тужлівага душэўнага стану. Альбо — у хвіліны радасці. Памятаю, аднойчы Валодзя з Марынай, праездам у Парыж, заехалі да мяне ў Мінск. Валодзя быў з агромністай валізкай. Пакуль Марына нешта дарыла маёй маме, Валодзя падышоў да мяне і, адкрываючы валізку, важна вымавіў: “Усё, наспеў час, Віця, заняцца табою ўсур’ёз. Трэба апрануць цябе па-людску”. І дастае падарунак — цудоўны скураны мараканскі пінжак, зроблены ўручную. Зараз ён ужо троху малаваты мне, але я захоўваю яго як памяць.

*(Працяг будзе)*



## ТВОРЧАЯ КУХНЯ



***Цікавасць да старажытнай культуры, высвятленне сваіх каранёў, памкненні да архаікі — адметная тэндэнцыя нашых дзён. Індустрыяльная рэчаіснасць парадаксальным чынам штурхае нас да міфатворства і "сусветнай абшчыны" (як акрэсліў стан сучаснай цывілізацыі канадскі філосаф М.Маклюэн), да містыкі і рытуалу. Нездарма значная частка культуралагічных даследаванняў у XX ст. была прысвечана вывучэнню фальклору розных краін і народаў. Музыка, якая дамінавала ў нашым стагоддзі — джаз і рок, узрасла з этнічнай традыцыі рытмікі і спеваў. Аднак сёння ва ўсіх краінах ёсць і такія музычныя калектывы, што працуюць выключна на народным, старадаўнім матэрыяле. Імкнучыся данесці да сучаснага слухача ўвесь каларыт мінуўшчыны, зрабіць яго ўдзельнікам паўзабытага абраду. Менавіта такім шляхам пайшлі "Ліцвіны". Аб праблеме адраджэння традыцыйнай беларускай культуры і музыкі мы й размаўлялі з кіраўніком гурта Уладзімірам Бярберавым.***




# "ЛІЦВІНЫ" — АЛЬТЭРНАТЫВА "ПАПСЕ"

**— "Ліцвіны" сёння — сталы і даволі знаны калектыў. А з чаго пачыналася ваша гісторыя?**

— Недзе ў 85-м годзе я ўпершыню пачуў чатырохгалоссе на Гомельшчыне. Мне спявалі тры бабулькі і дзядулька — старэнькія-старэнькія. Дарэчы, некаторыя з іх песень і зараз у нашым рэпертуары. Мяне гэтыя спевы так уразілі, што я падумаў: калі ў нас існуе такое мастацтва, трэба неадкладна нешта рабіць, каб яно захавалася. Але асабіста з сабой я гэта яшчэ не суадносіў. Ідэя ж стварэння гурта ўзнікла праз год, у 86-м, калі я пазнаёміўся з Алесем Ласём. Тады я працаваў на кінастудыі, і мы здымалі Лася. Здымкі цягнуліся больш за месяц, і вынікам нашых доўгіх вечаровых дыскусій у Зарудзічах, дзе жыў Лось, стала ідэя аб стварэнні гурта. Узнікла яна ў нас разам, нават цяжка сказаць, каго з нас у аўтарскім дуэце трэба ставіць на першае месца — мабыць, Лася. Канешне, зараз "Ліцвіны" — не зусім тое, што было першапачаткова, аднак асноўнае, працэнтаў на восемдзесят, захавалася.

Адразу мы вырашылі, што інструменты павінны быць сапраўдныя, даўнейшыя. Трэба было іх вывучыць, а яшчэ й здабыць. Па сутнасці, этнаінструментазнаўцам мяне зрабіла ўжо ідэя "Ліцвіноў". Калі нехта кажа: як гэта ты мог кінуць навуку і падацца ў фальклор, для мяне гэта неяк дзіўна: калі б беларускае этнаінструментазнаўства было больш развітае, я проста б абкладся адпаведнымі кніжкамі і ўсё праштудзіраваў. Але кніжкі, якія існавалі, адказвалі далёка не на ўсе пытанні. Яны, хутчэй, давалі арыентацыю, у якім накірунку шукаць.

**— Якія ж інструменты вы сталі выкарыстоўваць?**

— Па-першае, у 87-м годзе я купіў цымбалы — сапраўдныя, этнаграфічныя. Купіў я іх у аўтара — Максіма Такушэвіча. Скрыпку я набыў, працуючы ў Заслаўскім запаведніку, у майстра са Смаргоні Івана Карнея. Гэта тыповая сялянская заходнебеларуская скрыпка. На апошніх "Залатых ключах" да нас падыйшоў чалавек з Івянца. Прозвішча яго было Лямбовіч — а гэта прозвішча няпростае, бо івянецкія Лямбовічы — вельмі старая дынастыя вясковых музыкаў. Ён папрасіў нашу скрыпачку Таццяну граць на гэтай скрыпцы, слухаў з такім захапленнем, а потым кажа — "даўно забыты гук"... Забыты! Петраградскі гармонік, які мы выкарыстоўваем, зараз ужо рэліктавы інструмент. Ну а беларуская дуда — нават не рэліктавы, а проста экзатычны інструмент! Калі мы толькі марылі аб гурце, ужо было ясна, што без дуды нам не абысціся. Тады ж здавалася, што гэты інструмент вымер назаўсёды. Але Алесь Лось якраз рабіў эксперыменты і спрабаваў зрабіць гэтую дуду. Ён яе нам і ствараў у 91-м, калі "Ліцвінам" не было яшчэ й месяца. На ёй я граў яшчэ летась. А ў мінулым годзе купіў новую — у Віктара Кульпіна. Граем мы пераважна гуртом, і нам патрэбна басовая апора ўсяго гучання. Гэты ж майстар здолеў зрабіць мацнейшыя бурдоны, і дуда бусе дастаткова. У ранней дудзе Лася, на якой я да таго граў, гук няўстойлівы, трэба дакладна трымаць ціск — дарэчы, сучасныя дуды Лася ўжо лепшыя. Яшчэ мяне страшэнна купіла тое, што ў бурдоне можна мяняць тон падчас ігры. І калі я пачуў тое, пра што марыў, назаўтра ж паехаў да Кульпіна, напазычаў грошай — нават у ламбард завітаў. Потым з "даўгавой ямы" мяне выкупіла "Дайнова".

**— А як фарміруецца рэпертуар "Ліцвіноў"?**

— Некалькі песень я сам запісаў. Да таго ж песні сістэматычна прыносіць большасць удзельнікаў гурта, шмат прынесла наша колішняя салістка Матыліцкая. Апроч таго, ёсць і самы банальны шлях — бярэм розныя зборнікі, гартаем і час ад часу нешта цікавае знаходзім. Бывае, сябры дапамагаюць, прыносяць касеты з фальклорнымі запісамі. Мы ж падбіраем тое, што нам пасуе ў стылістыцы, хаця ў ідэале хацелі б быць гуртом у фальклоры досыць універсальным: каб у наш рэпертуар уваходзілі ўсе жанры фальклору, апроч хіба частушак.

**— У нас сёння шмат фальклорных гуртоў. Ці выдзяляюцца з іх як-небудзь "Ліцвіны"?**

— Адзін чалавек казаў, што фальклорныя калектывы — усе на адзін манер, усе ў той ці іншай ступені капіруюць дзяржаўны хор імя Цітовіча. Калі я пачуў такую думку, дык ледзьве не паваліўся: трэба зука не выходзіць за межы фальклорнай варыянтнасці. Але даводзіцца. Напрыклад, пра дуду звесткі ёсць толькі ў паўночнай Беларусі, таму і ўжываць яе мы павінны толькі ў паўночна-беларускіх песнях. Першапачаткова ўсе беларусы гралі на ёй, але ў пачатку XX стагоддзя яна захавалася толькі на поўначы. Калі я ўжываю дуду ва ўсіх песнях — гэта гіпатэтычна. Мы ўсё ж такі імкнемсім у гэтым жанры не разбірацца, каб такое заявіць. На самой справе сярод усіх вядомых прадстаўнікоў жанру я ўвогуле падобных адзін да аднаго не знаходжу. Ёсць больш-менш блізкія па стылі, напрыклад, "Свята", "Вяселле", "Крупіцкія музыкі" — гэтаксама, як "Агмень", "Дзянніца" і "Ліцвіны". Але ад "Свята" тыя ж "Ліцвіны" па стылі далёкія.

**— Калі размаўляць пра стылістыку, у якой вы працуеце, дык мне "Ліцвіны" нагадваюць сярэднявечных музыкаў, якія вандруюць па гарадах і вёсачках, час ад часу іграюць на розных святах, урачыстасцях...**

— Вельмі слушна. Характэрная рыса беларускага фальклору — архаічнасць. Але шмат спецыфічных рысаў нашага фальклору належыць не толькі да беларускай, але й да ўсёй еўрапейскай сярэднявечнай музыкі. З гэтай стылістычнай асновы мы зыходзілі. Вось вазьміце "Кантабіле" — фальклор яны не іграюць, а як гэтая музыка нагадвае наш фальклор, праўда? "Сярэднявечча" ў нас моцна гучыць. Да таго ж мы іграем на гармоніку і акардэоне, выконваем песні, якія ніяк не могуць мець такіх старажытных каранёў, але выконваючы іх, мы таксама зыходзім з той стылістыкі, што была ўзята намі за аснову. А будуецца яна на чыста народнай пастаноўцы галасоў і чыста народным гучанні інструментаў.

**— Як вы ставіцеся да эксперыментаў па спалучэнні фальклору з сучаснымі стылямі, прафесійнымі прыёмамі кампазіцыі?**

— Станоўча, калі гэта зроблена таленавіта. Але мы ніколі да такіх эксперыментаў не імкнуліся. У прынцыпе, няма абсалютовага, эталоннага фальклору. Стопрацэнтны фальклор — аўтэнтычны. Але й сама аўтэнтыка ў даволі шырокіх межах вар'іруе. Мы самі стараемся далёся, каб такія гіпатэтычныя моманты былі адзіным нашым адступленнем. Плюс пэўная гіпербалізацыя — не дужа вялікая, але некаторыя рысы фальклору мы даем, неяк "выпячваючы" іх. У аўтэнтыцы "аж настолькі" не бывае. Мы карыстаемся народнымі прыёмамі інструментоўкі, але каб столькі іх нагрувасціць у адзін твор — такога ў фальклоры не бывае. Там трэць таго, што мы ўжылі. Дзе яшчэ гіпербала? Гомельшчына вельмі прыгожа спявае — разыходзіцца з цеснай інтэрвалікі раптам у актаву. А "Ліцвіны" зрабілі так, каб разысціся не ў актаву, а ў дзве.

**— Удзельнікі гурта — прафесійныя музыкі?**

— Паняцце "прафесіянал" у нас размытае. Я магу паспрачацца, што наш акардэаніст, у якога за плячыма толькі музычная школа, элементарна перайграе таго, хто паспяхова скончыў кансерваторыю. Таццяна — скрыпачка і Святлана — цымбалістка, бясспрэчна, прафесіяналы-музыкі. Дыпламаваныя. У мяне самога сістэматычнай музычнай адукацыі няма. У дзяцінстве я атрымаў два класы па скрыпцы. Сям'я наша ўвесь час пераязджала, настаўнікі бясконца мяняліся і вынікаў амаль не было. Пазней, падлеткам, за два гады я ўзяў чатыры класы па гітары ў музычнай школе. А што тычыцца нефармальнай адукацыі, Бетховен і Бах былі ў мяне на слыху, калі я быў яшчэ дашкольнікам. Старшакласнікам і студэнтам я захапляўся рокам. Крышку сябе спрабаваў у гэтым жанры, але не надта тады атрымалася. Аднак у гэты перыяд я шмат чаго з музыкі вывучыў па кніжках. Праштудзіраваў увесь падручнік гармоніі для музычных вучэльняў. Потым сам навучыўся граць на дудзе й гармоніку. Ну а з вакалістаў нашых — апроч Ігара, які мае музычную школу па кларнеце, ніхто нот не чытае. Яны проста добра ведаюць фальклор.

**— Вы канцэртуеце не толькі па Беларусі, але і ў замежжы. Як там успрымаюць "Ліцвіноў" і ці адрозніваюцца неяк нашы і замежныя слухачы?**

— Ведаеце, калі трэба, каб нам болей спявалі дыфірамбы, трэба браць замежную прэсу пра нас. А калі хочацца нечага больш грунтоўнага, аналітычнага, то гэта — тут. На жаль, увогуле ёсць уражанне, што за мяжой нас лепш успрымаюць. Але мы для іх настолькі экзатычныя, што сур'ёзнага мастацкага аналізу там не бывае. Слухачы? Нашы прывучаныя да звычайнай эстраднай папсы, і тое, што жанрава адрозніваецца, публіка ўспрымае не так лёгка. Калі мы выступаем, дык адчуваем, што першыя хвіліны публіка разгубленая і здзіўленая, яна не можа вырашыць, як гэта разумець, як расцэньваць. А праз пэўны час яны ўключаюцца, і ўжо ўсё ідзе добра. Заходні слухач выхоўваўся больш на року, таму яны ў нечым хутчэй нас разумеюць. Дый нам рок-музыка па стылістыцы бліжэйшая за папсу.

**— У пачатку кастрычніка вы былі на фестывалі "Залатыя ключы" і, наколькі я ведаю, паспяхова там выступілі. Раскажыце, калі ласка, пра гэтую імпрэзу.**

— Імпрэза новая, першы тур адбыўся паўтара гады таму. Фестываль не ставіць, як мне здаецца, пэўных рамак, а імкнецца ахапіць усе некласічныя жанры. Лаўрэацтва там прысвойваецца па розных намінацыях, апроч фальклору ёсць намінацыі "эстрадная песня", "танцы", "цырк"... Мяркую, калі б у "Залатых ключах" захацелі ўдзельнічаць джазавыя ці рок-выканаўцы, з'явіліся б адпаведныя намінацыі. "Ліцвіны" ў першым туры атрымалі лаўрэацкае званне першай прэміі, такі ж поспех — у фінале.

**— Якія ў гурта планы на бліжэйшы час?**

— Планы, на жаль, залежаць сёння ад базісу, грошай. Па сутнасці, апошні год гурт у вельмі добрай форме, і калі б нам зараз прапанавалі кантракт на выпуск кампакт-дыска, то сумніву ў мяне, як кіраўніка гурта, не было б ніякага. Патрэбныя нам таксама некаторыя інструменты, па-першае, яшчэ адзін гармонік — вілейская трохрадка. Трэба вярнуць беларускаму фальклору гучанне гэтага інструмента. Хацелася б яшчэ кларнет, акардэон беларускага фасону, бо без іх у нас пэўныя музычныя праекты замарожаныя. Хацелася б строі набыць, якія паўтараюць аўтэнтыку. Каштуе ўсё гэта вялікіх грошай. У значнай ступені таму, што "Ліцвіны" — гурт эксперыментальны. Калі лыжнікі ідуць па цаліку, натуральна, цяжэй таму, хто першы пракладае след. Астатнім лягчэй пасля ісці. "Ліцвіны" й пракладаюць такі след. Зрабіць нашы інструменты можна толькі ўручную, а гэта дорага.

Прычым я не лічу сваёй працы, чыста даследчай, падрыхтоўкі чарцяжоў. Майстры, якія засталіся жывыя, часам і не ведаюць, што гэты інструмент сам сабой уяўляў. Строі — таксама работа ручная, вельмі кваліфікаваная. Майстры атрымліваюць аўтэнтычныя ўзоры, элементы строяў, вышывак — а трэба ўзнаўляць строі цалкам... Нашы складанасці — складанасці ўсяго эксперыментальнага.

**— Са свайго боку жадаю вам поспехаў у здзяйсненні ўсіх праектаў і спадзяюся, што некалі музыкам у нашай краіне сапраўды стане жыць добра — і ў духоўным, і ў матэрыяльным плане.**

— На тое і спадзяемся.

**Ірына БАРАВАЯ**

КУЛЬТУРА
ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Алесь ЧАЙКА
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 2.12.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.